Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
Выдаецца са снежня 1994 года
№31(695) 1 жніўня 2013 года.
Кошт свабодны.

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

















Прыйшоў жнівень, пачалося жніво на Глыбоччыне. *Фота Кастуся Бахіра.*













# «Арт-Сядзіба» едзе ў экспедыцыі па Беларусі

**Рэдакцыя сайта artsiadziba.by пры інфармацыйнай падтрымцы газеты «Наша Ніва» распачынае журналісцкі праект «Экспедыцыя Арт-Сядзібы „Зробім лепш!“».**

Цягам двух месяцаў некалькі груп маладых журналістаў выпраўяцца ў дзесяць міні-экспедыцый па Беларусі. Кожная экспедыцыя знойдзе цікавага чалавека ці ініцыятыву ў розных рэгёнах Беларусі, якія шчыра і паспяхова займаюцца сваёй справай і вырашаюць пэўныя сацыяльныя, грамадска значныя і культурныя праблемы ў сваёй мясцовасці.

Па выніках кожнай вандроўкі з'явяцца вялікія мультымедыйныя матэрыялы пра беларусаў, якія робяць нашую краіну лепшай.

«Арт Сядзіба» запрашае зацікаўленых далучацца да арганізацыі экспедыцый і ўдзелу ў іх. Калі вы ведаеце цікавых і адметных людзей з рэгіёнаў, якія аддана і паспяхова займаюцца сваёй справай — запрашайце! Адна з экспедыцый «Арт Сядзібы» з радасцю прыедзе да вас у госці.

Калі вы журналіст, фатограф ці відэааператар і хочаце далучыцца да адной з экспедыцый «Зробім лепш!», звяртайцеся да нас праз e-mail: artsiadziba@gmail.com. Мы адкрытыя да супрацы і заўсёды шукаем новых таленавітых аўтараў.

Усе матэрыялы з экспедыцый будуць апублікаваныя на сайце artsiadziba.by, а найлепшыя з'явяцца ў газеце «Наша Ніва» і на сайце nn.by.

Полацкі раён

# Прыклад для астатніх

■ Станіслаў Раманчук

**Як вядома, на многіх дзяржаўных айчынных дрэваапрацоўчых прадпрыемствах яўна зацягнуўся працэс мадэрнізацыі, хоць яны атрымалі значныя сродкі на сваё тэхпераўзбраенне.**

А вось для такіх дзяржструктур можа быць нават карысным для пераймання вопыт працы прыватнай фірмы "Інтэрфорэст" з Наваполацка. Хоць у гэтай сферы вялікая канкурэнцыя, навапалачане адваявалі сваю нішу на рынку. Акрамя выпуску розных вырабаў з драўніны, плінтусаў, дошак для падлог, абшывачнага матэрыялу невялікі калектыў заняўся і значнымі аб'ектамі з клеенай драўніны. Тут яшчэ перайшлі на вытворчасць без адходаў, забяспечылі сябе ўласным цяплом, а з рэшткі апілак сталі рабіць і паліўныя брыкеты. Навапалачане дабіліся, што ўжо каля 40 працэнтаў іх вырабаў ідзе на экспарт, у больш чым 10 краін свету, адкрылі сваё прадстаўніцтва ў Маскве. Летась яны за мяжу адгрузілі выпрацаванай прадукцыі больш чым на 1 млн. долараў. Сакрэт іх поспеху заключаецца ў тым, што фірма можа вырабіць любы аб'ект з дрэва ў залежнасці ад жаданняў заказчыка. На іх прадпрыемстве працуюць свае дызайнеры-канструктары. Яны праектуюць розныя драўляныя дамы, а цяпер сталі выраблять і невялікія драўляныя культавыя збудаванні. Адну такую праваслаўную капліцу асвяцілі ў Расіі, сёлета летам падобны храм з'явіцца ў суседнім Верхнядзвінскім раёне. Цяпер ужо па ўсёй Беларусі стаяць і аб'екты сацыяльнай сферы ад фірмы "Інтэрфорэст": ад невялікіх саўн да ўтульных кафэ і міні-гасцініц, якія ўдала ўпісваюцца ў рэльеф мясцовасці.

Браслаўскі раён

# Розная доля і ў школ

■ Чэслаў Якубовіч

**Толькі ў беларускай сталіцы і яшчэ некалькіх гарадах прыбаўляецца зараз колькасць насельніцтва, а вось правінцыя пакрыху вымірае.**

Гэтыя сумныя працэсы закранулі і азёрны Браслаўскі раён, хоць сюды сталі перазджаць жыць пенсіянеры з Мінска, іншых рэгіёнаў. З-за складанай дэмаграфічнай сітуацыі да новага навучальнага года на Браслаўшчыне закрываюць яшчэ адну школу з 32 па вобласці, а дзве сярэднія стануць па статусе базавымі. Такое скарачэнне ідзе ў азёрным краі некалькі гадоў і там, дзе школ не стала, вёскі хутчэй бязлюдзеюць. Сумнае ўражанне пакідае былая Зарацкая школа. Яе некалькі будынкаў, абкладзеных цэглай, зараслі травой, на раней дагледжанай тэрыторыі пачаў размнажацца паразіт баршчавік. Праўда, у раёне знайшлі хоць часовае прымяненне былым школьным памяшканням. У былой Оплiскай школе СШ № 2 з райцэнтра арганізавала працу свайго краязнаўчага аздараўленчага лагера. На працягу тыдня 15 школьнікаў, хто асабліва цікавіцца родным краем, хадзілі ў паходы, вучыліся арыентавацца на мясцовасці, пабывалі на магіле сына паэтэсы М. Цвятаевай. Дзеці адначасова навялі і ідэальны парадак на былой школьнай тэрыторыі. У яшчэ адной зачыненай былой Баравіцкай школе размясціўся яшчэ круглагадовы тэматычны лагер "Школа юнага географа", у якім адораным вучням таксама ўсё вельмі спадабалася. Паўсюдна ў рэгіёне стаяць былыя школы, іх многія яшчэ даротныя будынкі можна з карысцю выкарыстоўваць, аднак магчымасці мясцовых бюджэтаў у гэтым накірунку сціплыя.

Пастаўскі раён

# "Серабро" высокай пробы

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам футбол на Віцебшчыне яўна дэградзіруе, а каманда абласнога цэнтра нават другі год не прадстаўлена ў вышэйшым дывізіёне.**

На гэтым сумным фоне толькі Паставы на нацыянальным узроўні гучна заяўляюць пра сябе. На базе мясцовага прыватнага мэблевага цэнтра тут адкрылася першая ў Беларусі футбольная акадэмія еўрапейскага ўзроўню. І не дзіўна, што першыя дасягненні не прымусілі сябе доўга чакаць. У завяршыўшымся чэмпіянаце Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе сярод моладзі ва ўзросце да 17 гадоў мясцовая каманда "ПМЦ-Паставы" ўпершыню ў сваёй гісторыі заваявала сярэбраныя медалі. Пастаўчане апярэдзілі бронзавага прызёра, не абы-каго, а рэзервістаў славутага БАТЭ (Барысаў), вядомыя клубы сталіцы, абласных цэнтраў і буйных гарадоў. Футбалісты ПМЦ выйгралі 18 матчаў, 6 разоў згулялі ўнічыю і толькі 4 сустрэчы прайгралі і сталі лепшымі ў Беларусі па колькасці 90 забітых мячоў. У іх складзе гуляе лепшы бамбардзір першынства, нападаючы маладзёжнай зборнай Беларусі Ілья Кухарчык. У пяцёрку лепшых снайпераў краіны ўвайшлі таксама і яго партнёры Аляксандр Александровіч і Павел Ясінскі. Гульня каманды вельмі радуе гледачоў, на стадыён прыходзяць шмат людзей розных узростаў. Ды і футбольная акадэмія мае 170 навучэнцаў розных узростаў, працуе на перспектыву, а самыя таленавітыя выхаванцы ўжо з'явіліся ў складзе суперклубаў Расіі і Беларусі, сталі прафесійнымі футбалістамі.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 01.08.13 | | | | Пятніца 02.08.13 | | | | Субота 03.08.13 | | | | Нядзеля 09.08.13 | | | | Пнд.10.08.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +13 | +18 | +22 | +19 | +12 | +17 | +19 | +19 | +13 | +17 | +23 | +21 | +14 | +19 | +24 | +22 | +15 | +21 | +24 |
| Ціск | 744 | 745 | 745 | 746 | 746 | 746 | 745 | 746 | 747 | 748 | 748 | 749 | 749 | 750 | 750 | 749 | 749 | 750 | 750 |
| Вільготнасць | 97 | 87 | 51 | 62 | 86 | 78 | 68 | 72 | 91 | 85 | 64 | 70 | 90 | 79 | 49 | 71 | 95 | 85 | 59 |
| Вецер м/сек | 3 Пд-З | 5 З | 6 Пн-З | 5 З | 4 З | 5 З | 5 Пн-З | 5 Пн-З | 4 Пн-З | 4 Пн-З | 5 Пн | 4 Пн-З | 2 Пн-З | 2 Пн | 3 Пн-З | 3 Пн-З | 3 Пд-З | 2 Пн-З | 4 Пн-З |

# Аб самым надзённым

## БОЛЬШ ТРЭЦІ БЕЛАРУСКІХ АБІТУРЫЕНТАЎ НЕ НАБРАЛІ НЕАБХОДНЫХ БАЛАЎ ДЛЯ ЎДЗЕЛУ Ў КОНКУРСЕ ПА ПАСТУПЛЕННІ Ў ВНУ

■ Аляксандр Цішкевіч

**Цікава, што ў гэтым годзе тэсты здавалі крыху болей 113 тысяч чалавек, што амаль на 25 тысяч меней, чым год назад. І калі ў 2012 годзе ў конкурсе па паступленні ў ВНУ ўдзельнічалі амаль 120 тысяч абітурыентаў, то сёлета такіх прэтэндэнтаў на жаданы студэнцкі білет будзе толькі меней 73 тысяч.**

Штогод лета – самая хвалюючая пара для нашай моладзі, бо дзясяткі тысяч юнакоў і дзяўчат хвалююцца, ці ўдасца ім паступіць у выбранае ВНУ. І вось у пачатку ліпеня мары многіх маладых суайчыннікаў развеяліся, як ранішні туман. За галаву схапіліся і работнікі Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў, паколькі вынікі праведзенага цэнтралізаванага цэсціравання сёлета аказаліся проста шакіруючымі.

Гэта вам не жартачкі, бо нават 36 % ад прыняўшых удзел у ЦТ ( у абсалютных лічбах 40682 чалавекі з 113 тысяч абітурыентаў) выбылі датэрмінова з прыёмнай кампаніі. Яны адсеяліся з-за таго, што прадэманстравалі даволі нізкія веды па школьных прадметах і не пераадолелі мінімальную планку для падачы дакументаў у прыёмныя камісіі ВНУ. Дарэчы, гэта планка сёлета павысілася, але ўсё роўна яна была даволі сціплая (патрабавалася набраць ад 10 да 20 балаў у залежнасці ад прадмета). Пры гэтым нават 4 тысячы маладых беларусаў у апошні момант перадумалі і не з'явіліся на ЦТ.

Цікава, што ў гэтым годзе тэсты здавалі крыху болей 113 тысяч чалавек, што амаль на 25 тысяч меней, чым год назад. І калі ў 2012 годзе ў конкурсе па паступленні ў ВНУ ўдзельнічалі амаль 120 тысяч абітурыентаў, то сёлета такіх прэтэндэнтаў на жаданы студэнцкі білет будзе толькі меней 73 тысяч. Аб многім трэба задумацца, бо веды многіх нашых выпускнікоў школ, каледжаў і прафтэхвучылішч недастатковыя, каб "грызці граніт навукі" ў сценах вышэйшых навучальных устаноў.

У сувязі з гэтым выяўляецца яшчэ адна тэндэнцыя. Парадокс, але паступіць у прэстыжныя ВНУ, тыпу Белдзяржуніверсітэта, БНТУ, Акадэміі кіравання, ВНУ першага патоку на самыя папулярныя спецыяльнасці ды і яшчэ на бюджэт будзе яшчэ складаней. У тым жа БДУ ў прыёмных камісіях шчыра прызнаваліся, што трэба набраць значна болей 300 балаў, каб гарантавана стаць студэнтам. А вось запоўніць усе месцы, нават на бюджэтную форму навучання ў менш прэстыжных, правінцыяльных ВНУ, па ацэнцы спецыялістаў, сёлета будзе няпроста і можа зноў быць нават недабор.

Як і раней, у нас вучыцца ёсць дзе і на каго. У Беларусі да 25 ліпеня вялі прыём дакументаў для атрымання вышэйшай адукацыі 54 розныя ВНУ, з якіх 9 – прыватныя. За кошт дзяржаўнага бюджэту яны неўзабаве залічаць на 1 курс 30,5 тысяч студэнтаў. Колькасць першакурснікаў сёлета скарацілася на 5,2 % і яшчэ болей нават на 15 % тых студэнтаў, хто паступіць вучыцца за грошы. У беларускіх ВНУ з 1 верасня плануюць пачаць вучыцца на платнай аснове 47 тысяч юнакоў і дзяўчат.

У сваю чаргу сёлета спакайней сябе адчуваюць работнікі прыёмных камісій сярэдне-спецыяльных навучальных устаноў, бо на 1 курс тэхнікумаў залічаць 27 тысяч навучэнцаў. Гарачым для абітурыентаў будзе і пачатак жніўня, калі ў няўдачнікаў конкурснага адбору на бюджэт будуць прымаць дакументы на ўмовах аплаты і на дзённай, завочнай, вячэрняй формах навучання. Між тым, у гэтым годзе самым складаным бар'ерам для беларускіх юнакоў на ЦТ аказалася матэматыка, тут адсеяўся кожны пяты з іх. Яшчэ амаль 36 тысяч абітурыентаў паказалі слабыя веды па фізіцы і як вынік, у рэгіянальных ВНУ на тэхнічныя спецыяльнасці можа быць самы вялікі недабор на 1-ы бюджэтны курс.

Яшчэ з адной асаблівасцей прыёмнай кампаніі-2013 стала павелічэнне прыёму ў 39 ВНУ краіны на скарочаную форму навучання выпускнікоў тэхнікумаў і каледжаў. І гэта правільны крок, як і тое, што самыя прэстыжныя БДУ і БДУІР у новым навучальным годзе адкрылі для першакурснікаў прыём па 11-12 новых спецыяльнасцей, запатрабаваных жыццём. У апошнім з іх, хто цікавіцца інфарматыкай і радыёэлектронікай, можа паступаць, як у Еўропе, не выходзячы з дому, бо там дзейнічае аўтаматызаваная сістэма залічэння.

З іншага боку ў Беларусі ёсць дзе і на каго вучыцца, было б толькі жаданне ў моладзі і яшчэ грошы ў многіх бацькоў. Па-ранейшаму не хапае месцаў у студэнцкіх інтэрнатах, хоць і сталі будаваць студэнцкую вёску ў Мінску. У будучым годзе з-за праводзімага чэмпіянату свету па хакеі ў беларускай сталіцы будуць змены ў вучэбным працэсе, бо шэраг новых студэнцкіх інтэрнатаў задзейнічаюць для размяшчэння гасцей хакейнага першынства. Зусім хутка стануць вядомы вынікі залічэння ў ВНУ, а самым таленавітым і здольным, хто стане студэнтам, трэба рыхтавацца да новага, цікавага і шчаслівага студэнцкага жыцця.

## Дзень за днём

**Каля паўмільярда долараў можа страціць Беларусь сёлета толькі з-за ўспышкі афрыканскай чумы свіней, многім беларусам яшчэ год-паўтара нельга будзе іх вырошчваць. У Беларусі ў сёмы раз прадоўжылі тэрміны чэкавай прыватызацыі, гэта кампанія цягнецца ўжо два дзесяцігоддзі. Для беларусаў зноў падаражэлі хлеб, гарэлка і цукар. Па колькасці насельніцтва наша краіна выйшла на 18-е месца ў Еўропе, цяпер ужо 75 % беларусаў жывуць у гарадах. Лоцманскую службу плануюць стварыць у Беларусі, найперш для судаходства з Украінай. З-за нёдахопу рабочых рук на будаўніцтве, адкрыццё новай "Чыжоўка-Арэны" перанеслі на паўгода.**

## Важнейшыя навіны свету

**Бельгія**. Еўрасаюз падаў у суд Сусветнай гандлёвай арганізацыі іск супраць Расіі з нагоды ўвядзення ёй утылізацыйнага збору на іншамаркі, расійскі аўтапрам займеў перавагі.

**Кыргыстан.** Па сімвалічнай цане за 1 $ расійскі "Газпрам" набыў газатранспартную сістэму краіны з газаправодамі, станцыямі, падземнымі сховішчамі газу і ўчасткамі зямлі.

**Партугалія.** Яшчэ двое міністраў кааліцыйнага ўрада падалі ў адстаўку з-за ўзмацнення эканамічнага крызісу; эканоміка перажывае рэцэсію, спад вытворчасці, расце беспрацоўе.

**Бельгія.** Глава прадстаўніцтва ЕС у РБ Майра Мора заявіла, што апошнім часам сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі не палепшылася, ключ да дыялогу ў руках улад у Мінску.

**Харватыя.** Як новы член Еўрасаюза ўрад краіны для развіцця харвацкай эканомікі атрымае з Брусэля да 2020 года 14 млрд. еўра дапамогі, цяпер тут заробкі 500 еўра ў месяц

**Расія.** Для прадухілення распаўсюджвання афрыканскай чумы свіней на тэрыторыю РФ краіна адкрыла на граніцы з Беларуссю ў Віцебскай вобласці свае каранцінныя пасты.

**ЗША.** Упершыню ў свеце беспілотны самалёт Х-47 В ВМС краіны паспяхова прызямліўся ў Атлантычным акіяне на палубу магутнейшага авіяносца "George HW Bush".

**Кітай.** Днём у правінцыі Хубэй па невядомых прычынах узарваўся біяхімічны завод, узнік пажар, былі ахвяры, сёлета летам гэта ўжо трэці па ліку падобны інцыдэнт у краіне.

**Ірландыя.** Парламент краіны дазволіў жанчынам спыняць цяжарнасць пры рызыцы для жыцця маці, дагэтуль у сярэднім 11 ірландак штодзень рабілі аборты ў суседняй Англіі.

**Ізраіль.** Урад краіны пачаў замену звычайных пашпартоў з паперы на біяметрычныя, у бліжэйшыя 2 гады іх абмен будзе праводзіцца бясплатна і на добраахвотнай аснове.

**Антарктыда.** Ад ледніка ля вострава Пайн-Айленд пасярод зімы адкалоўся гіганцкі айсберг плошчай 720 квадратных км (амаль плошча Масквы) і паплыў у акіян.

**Балгарыя.** На Чорным моры каля Варны трагічна загінуў падчас лоўлі мідый 59-гадовы кіраўнік Балгарскай праваслаўнай царквы мітрапаліт Варненскі і Вялікапрэслаўскі Кірыл.

**Расія.** У Маскве і сталічнай вобласці зноў аб'явілі жалобу пасля жудаснага ДТЗ ля Падольска, 18 чалавек загінулі пасля ўдару суботнім днём грузавіка ў рэйсавы аўтобус.

**Украіна.** Урад Беларусі вырашыў адкрыць у Кіеве міжнародны рачны пункт пропуску праз дзяржаўную граніцу для перавозак грузаў водным траспартам у порты Чорнага мора.

**Інданезія.** Пяцёра зборшчыкаў драўніны чацвёра сутак чакалі на дрэве паратунку ад тыграў на востраве Суматра, пакуль іх не вызвалія ад звяроў спецыяльная каманда выратавальнікаў.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Касцюковічы.** Кіраўнік урада РБ М. Мясніковіч прызнаў узнікшы ажыятаж на валютным рынку, але запэўніў, што ніякага абвалу беларускага рубля сёлета не будзе, валюты хапае.

**Мінск**. Недахопу замежнай валюты ў абменніках не будзе, супакоіла насельніцтва старшыня праўлення Нацбанка Беларусі Н. Ермакова, людзі здымаюць грошы з укладаў.

**Чэрвень.** У сталічнай вобласці з пачатку года своечасова не выплацілі работнікам 42 мільярды. рублёў зарплаты, за гэта яе кіраўнік Б. Батура жорстка раскрытыкаваў тут падначаленых.

**Мінск.** Нацыянальная авіякампанія "Белавія" распрацавала бізнесплан па закупцы яшчэ 5 новых самалётаў, у першым паўгоддзі яна перавязла амаль 650 тысяч пасажыраў.

**Брэст.** У цяжкім стане прывезлі рэанімабілем з Украіны ў бальніцу дзяўчынку, у ДТЗ у Валынскай вобласці пацярпелі 24 беларусы, з іх 18 дзяцей, хлопчык 13 гадоў загінуў.

**Стаўбцы.** У некалькіх вёсках раёна выявілі ачагі афрыканскай чумы свіней, людзі колюць жывёл на мяса, раней афрыканская чума накрыла Валожынскі раён і распаўсюджваецца па Беларусі.

**Горкі.** Племянную карову гальштынскай пароды па мянушцы Груша з вучэбнай гаспадаркі сельгасакадэміі прызналі лепшай у Беларусі, яна дае ў суткі больш 47 кілаграмаў малака

**Слуцк.** На базе мясцовага цукрарафінаднага камбіната пачалі будаўніцтва сумесна з немцамі на плошчы 7 гектараў новага дрaжджавого завода коштам 33 мільёнаў еўра інвестыцый

**Ашмяны.** З-за афрыканскай чумы ў мясцовага фермера Івана Гаўрыловіча знішчылі ўсё пагалоўе яго свінафермы – больш за 600 галоў свіней, ён абанкроціўся з-за ўспышкі АЧС.

**Гродна.** У горадзе адкрылі першую ў Беларусі эксперыментальную службу мотатаксі, яе стварылі на еўрапейскі манер вопытныя байкеры мясцовага клуба "Насарогі".

**Вілейка.** Ноччу ў вёсцы Абадоўцы былы зэк нажом забіў студэнта 2-га курса Беларускага тэхналагічнага ўніверсітэта, таму што моладзь стала шумець і стукацца ў дом грамадзяніна Расіі.

**Мінск.** Сталічны МАЗ знізіў цэны на свае аўтамабілі і цягачы класа Еўра-4, яны завіслі на складах на тэрыторыі Расіі, сёлета расійскі рынак знізіў закупкі беларускай тэхнікі.

**Жыткавічы.** Днём падчас адпачынку на возеры Белае патанулі адразу 5 чалавек, з іх – трое дзяцей, яны каталіся па возеравыратавальным крузе, прывязаным да маторнай лодкі.

**Магілёў.** Плату за праезд па трасе М4 на Мінск з дапамогай аўстрыйскай электроннай сістэмы BelToll пачнуць браць з 1 студзеня 2014 года, як і на шэрагу ўчасткаў трасы М5.

**Брэст.** Прама за рабочым сталом памёр ва ўзросце 63 гадоў аглядальнік незалежнай газеты "Брэсцкі кур'ер" Міхаіл Янчук, яго калонка ў кожным нумары была вельмі папулярнай.

## У Беларусі са жніўня ўзрастуць дзіцячыя дапамогі



**У Беларусі са жніўня бягучага года ўзрастуць дзіцячыя дапамогі, паведаміла карэспандэнту БЕЛТА намеснік начальніка аддзела народанасельніцтва, гендэрнай і сямейнай палітыкі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Марына Арцёменка.**

Яна нагадала, што ў сувязі з уступленнем у сілу новай рэдакцыі закона «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» з 1 студзеня 2013 года памер дапамогі па догляду за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў дыферэнцыруецца ў залежнасці ад колькасці дзяцей. На першага дзіцяці ён складае 35% сярэднямесячнай заработнай платы, на другога і наступных дзяцей - 40%. Дапамога на дзіця-інваліда прызначаецца і выплачваецца ў памеры 45% сярэднямесячнай заработнай платы незалежна ад чарговасці нараджэння дзяцей у сям'і.

Памер гэтай дапамогі ў бягучым годзе вылічваецца ў наступным парадку: з 1 па 31 студзеня 2013г ўжываецца сярэднямесячная заработная плата за III квартал 2012 года, з 1 лютага па 30 красавіка 2013г - сярэднямесячная заработная плата за IV квартал 2012 года, з 1 мая па 31 ліпеня - сярэднямесячная заработная плата за I квартал 2013 года, з 1 жніўня па 31 кастрычніка - сярэднямесячная заработная плата за II квартал 2013 года, з 1 лістапада 2013 г па 31 студзеня 2014 г - сярэднямесячная заработная плата за III квартал 2013 года. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, сярэднямесячная заработная плата работнікаў за II квартал 2013г склала Br5 млн. 10 тыс.660. Адпаведна, у жніўні-кастрычніку памер штомесячнай дапамогі па догляду за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў складае на першага дзіцяці - Br1 млн. 753 тыс. 700, на другога і наступных дзяцей - Br2 млн. 4 тыс. 300, на дзіцяінваліда ва ўзросце да 3 гадоў - Br2 млн. 254 тыс. 800.

«Якія пражываюць на тэрыторыі радыёактыўнага забруджвання ў зоне наступнага адсялення або з правам на адсяленне дапамога па догляду за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў, як і раней, прызначаецца і выплачваецца ў памеры 150% да ўстаноўленага законам», - дадала спецыяліст.

Пастановай Савета Міністраў зацверджаны новы бюджэт пражытачнага мінімуму - з 1 жніўня па 31 кастрычніка бягучага года ён складае Br1 млн. 26 тыс. 290. Новы БПМ павысіўся на 5,4%. На такую ж велічыню ўзрастаюць памеры некаторых відаў дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей.Так, аднаразовая дапамога пры нараджэнні першага дзіцяці складзе ў жніўні-кастрычніку Br10 млн. 262 тыс. 900, пры нараджэнні другога і наступных дзяцей - Br14 млн. 368 тыс. 100. Аднаразовая дапамога жанчынам, якія сталі на ўлік да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці, складзе Br1 млн. 26 тыс.300. Штомесячная дапамога на дзяцей старэйшых за 3 гады з асобных катэгорый сем'яў, якія вызначаюцца заканадаўствам, на дзіцяінваліда у жніўні-кастрычніку складае Br718 тыс.400, на іншых дзяцей у сям'і - Br513 тыс.100; штомесячная дапамога па догляду за дзіцёмінвалідам ва ўзросце да 18 гадоў - Br1 млн. 26 тыс.300; дапамога на дзіця ва ўзросце да 18 гадоў, інфікаванага ВІЧ - Br718 тыс. 400 .

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Гаспадаркам вобласці сёлета трэба ўбраць больш 450 тысяч гектараў зерняных, з 1900 камбайнаў перад пачаткам жніва былі няспраўныя каля 380 адзінак тэхнікі.

**Сянно.** У чатырох правераных калгасах раёна Дзяржкантроль выявіў грубыя факты няякаснай нарыхтоўкі сенажу і сена і дрэннага захоўвання мінеральных угнаенняў.

**Глыбокае.** Камбайнерам раёна належыць абмалаціць у гэтым годзе 24,6 тысяч гектараў збожжа, наяўнасць 110 камбайнаў дазволіць правесці ўборку мінімум за 20-22 дні.

**Орша.** Сарафаны мясцовага прадпрыемства глухіх "Нить" сталі пераможцамі конкурсу "Лепшыя тавары года Рэспублікі Беларусь", тут для працы набылі 22 імпартныя швейныя машыны.

**Наваполацк.** Праваабаронцы краіны назвалі прысуд 1,5 гады турмы "шпіёну" ЦРУ слесару ААТ "Нафтан" Андрэю Гайдукову неабгрунтаваным і палітычна матываваным.

**Віцебск.** Чацвёрты год запар аўтапарк № 1 практычна не атрымоўвае новую тэхніку, для абслугоўвання пасажыраў на лініях у горадзе не хапае 45 машын і 140 вадзіцеляў.

**Паставы.** Гаспадаркі раёна недаплацілі сёлета ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва ўжо 4 мільярды рублёў, за электраэнергію яны таксама вінаваты каля 3 мільярдаў рублёў.

**Полацк.** Больш месячнай нормы ападкаў выпала ў горадзе за адзін дзень, лівень падтапіў многія дамы прыватнага сектару і 2 магазіны, зацяклі дахі шматкватэрных дамоў.

**Віцебск.** Супрацоўнікі мясцовай мытні на расійска-беларускай граніцы затрымалі 2 тысячы літраў спірту, які нелегальна перавозіў на фуры Сканія грамадзянін Беларусі.

**Лепель.** МУС Беларусі выдзеліў райаддзелу міліцыі новы спецаўтамабіль "Собаль", парк міліцыі вобласці папоўнілі яшчэ 13 новых аўтамабіляў, у асноўным – УАЗы.

**Браслаў.** З чатырох раёнаў вобласці і з Мінска адпачыла праваслаўная моладзь у хрысціянскім духоўным летніку ў Друі на базе мясцовай Свята-Георгіеўскай царквы.

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрылі помнік былому першаму сакратару абкама КПБ Уладзіміру Грыгор'еву, ён прыдумаў 25 гадоў назад узвесці ў горадзе Летні амфітэатр.

**Наваполацк.** Адразу два шматпавярховыя дамы-доўгабуды здалі ў горадзе ў ліпені ў эксплуатацыю, аднак у вобласці яшчэ 21 новы дом будуецца даволі працяглы час.

**Віцебск.** Генпракуратура Беларусі не стала арыштоўваць галоўнага архітэктара горада, хоць і распачала супраць яго крымінальную справу за перавышэнне паўнамоцтваў.

**Полацк.** У лясным масіве побач з аграгарадком Заазер'е прайшоў чарговы III ягадны фестываль "Чарніцы", амаль паўтысячы ўдзельнікаў спаборнічалі ва ўменні збіраць ягады.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**“Паэзія – гэта жывапіс душы, найвышэйшая форма свабоды чалавека. Калі Беларусь і трымаецца на якіх-небудзь кітах, то адзін з іх, безумоўна, - паэзія.”**
*Змітрок Марозаў “Полымя” №4, 2013г.*

# “Пайшла ад роднага парога, каб на зямлі пакінуць след...”



Людміла Ардынская (Шарпенка) нарадзілася ў г. Глыбокае Віцебскай вобласці. “У мястэчку нарадзілася Глыбокім, не выбрала, наканаваў мне лёс”.

Скончыла Глыбоцкую СШ№2 у 1965 годзе. Свой творчы шлях пачынала са старонак Глыбоцкай раённай газеты “Шлях перамогі”, марыла стаць журналісткай.

Вучылася на філалагічным факультэце Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Працавала настаўніцай у сельскіх школах Шумілінскага і Докшыцкага раёнаў. Пасля заканчэння сельскагаспадарчай установы (завочна) працавала спецыялістам сельскай гаспадаркі на Полаччыне.

Каля трыццаці гадоў жыве ў в. Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна, прадаўжае сваю творчую і грамадскую дзейнасць. Піша вершы і артыкулы, цікавіцца краязнаўствам, культурнай спадчынай гэтага краю. Збірае і захоўвае прыказкі і прымаўкі, старадаўнія песні мясцовасці, у якой жыве.

Друкавалася ў раённай газеце Полаччыны, абласных газетах “Віцьбічы” і “Народнае слова”, рэспубліканскім часопісе “Полымя”, газеце “Вольнае Глыбокае”, якая гасцінна адчыняе дзверы яе творчасці.

Паэтэса – член народнага музычна-літаратурнага аб’яднання “Світанак” пры раённай газеце “Кліч Радзімы”, дыпламант абласнога агляду-конкурсу “Калыска мая – Беларусь”, прысвечанага песнярам Беларусі Я.Купалу і Я.Коласу ў намінацыі “Лепшы паэтычны твор”.

Горад Глыбокае – яе малая радзіма, родны і незабыўны бацькоўскі кут, з якім непарыўна знітаваныя яе душа і сэрца. Творца ганарыцца яго гістарычным мінулым, культурнай і духоўнай спадчынай. Яе радуюць эканамічныя дасягненні, цікавяць змены, якія адбываюцца ў горадзе і раёне. І, вядома, горад, прасторы Глыбоччыны натхняюць на напісанне вершаў аб роднай старонцы.

Тэматыка творчасці паэткі разнастайная: патрыятычная лірыка, філасофскі роздум аб сэнсе жыцця, аб прызначэнні паэта і паэзіі, іх ролі ў грамадстве, вершы аб каханні, прыродзе, краю. Праз усю творчасць чырвонай ніткай праходзіць сцверджанне чалавекалюбства, дабрыні, міласэрнасці, чуллівасці, спагады, неабыякавасці да бліжняга.

Жыццё – вялікі дар ад Бога,
Мне б не пражыць яго дарма…

Бясспрэчна, не можа чалавек пражыць жыццё дарма, калі ў яго душы жывуць словы Радзіма і Мова, любоў да іх і да людзей.

Мне хочацца людзям быць мілай –
Нашу славянскае імя.

Вершы паэткі і яе добрыя справы – гэта і ёсць той след, які яна пакідае на зямлі, аднойчы пайшоўшы ад роднага парога.

## Бацькаўшчына

*“Нам у спадчыну словы дадзены:
Жыта. Бацькаўшчына. Народ.”*
*Алесь Жыгуноў*

Белая Русь мая светлая, чыстая!
Рэчкі, азёры, бярозавы гай.
Поле жытнёвае, ліпы вячыстыя –
Дадзены Богам бацькоўскі мой край.
Замкі Нясвіжа, святыні Глыбоччыны,
Горда Сафія стаіць над Дзвіной.
Продкаў далёкіх ты – спадчына-вотчына,
Наша Айчына, дзе родны кут мой.
Крыж Еўфрасінні і меч Брачыслававы…
Свой крыж за мову пранёс Бурачок.
Верай узвышаецца, годнасцю, славай
Край бласлаўлёны сыноў і дачок.
У хоры магутным да вас данясецца
Голас мой песняй – Радзімы дачка.
У лузе квяцістым крынічкай праб’ецца
Тых спаталіць, у каго крыж Бурачка.

***

На пагорку бярозы
распусцілі зялёныя косы.
Цёплы ветрык маёвы
ў вершалінах лятаў, іх сплятаў.
У полі чыстым сушыла
сонца Юравы росы, як слёзы.
Цвет чаромхавы белы
свой дарунак у свет рыхтаваў.

Ад вясновага ліўню
ажывалі сівыя палеткі.
На гняздоўях буслы –
вестуны так жаданай вясны.
Беразвіца цякла
па бацькоўскай зямлі запаветнай
Да спрадвечна любімай
і апетай паэтам Дзісны.

Скрыжаванні дарог
і карціны цудоўных імгненняў,
Што паэта вялі
і ўзвышалі душу ў жыцці,
Я хачу паказаць,
песні сэрца аддаць пакаленням,
Каб любоў збераглі,
не пакінулі ўсё ў забыцці.



У рамках Вішнёвага фэсту адбываліся розныя цікавыя мерапрыемствы. На здымку – урачыстая рэгістрацыя шлюбу «Вішнёвае вяселле». *Фота Я. Самсонава.*

# Лукашэнка загадаў весці жэстачайшы кантроль за развядзеннем жывёл

**Аляксандр Лукашэнка патрабуе выключыць усе лазейкі ў новых правілах вядзення палявання і рыбалоўства. Аб гэтым ён заявіў сёння на нарадзе аб удасканаленні правіл вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства.**

«Правілы павінны быць аднастайныя для ўсіх, выразныя і зразумелыя, не пакідаць пралазу для нячыстых на руку», — сказаў ён.

Лукашэнка нагадаў, што ў гэтых мэтах па яго даручэнні было арганізавана грамадскае абмеркаванне правіл.

Ён падкрэсліў, што сёння трэба дэталёва разгледзець вынікі гэтага абмеркавання і прапанаваць людзям такія правілы, якія найбольш адпавядалі б сучасным патрабаванням, што прад’яўляюцца да паляўнічагаспадарчай і рыбалоўнай дзейнасці, садзейнічалі павышэнню яе эфектыўнасці, папярэджанню парушэнняў у гэтай сферы і найбольш поўна ўлічвалі пажаданні радавых паляўнічых і рыбаловаў, зрабілі б гэты від адпачынку і турызму масавым і даступным. «Гэта значыць усё, што мы сёння прымем, у асноўным ідзе ад саміх паляўнічых, рыбаловаў і ў цэлым нашага грамадства», — заўважыў ён.

**«Мы ні ў якім разе новымі правіламі не павінны нанесці шкоду дзяржаве і забараніць людзям займацца гэтымі відамі дзейнасці.**

Але кожны чалавек павінен разумець, што, калі мы пачнём страляць усіх і ўсё, лавіць электравудачкамі, сеткамі і іншымі прыстасаваннямі ўсё, што варушыцца ў вадаёмах, праз два гады ні ў лясах, ні ў вадаёмах нічога не застанецца», — падкрэсліў ён.

Ён дадаў, што гэты від дзейнасці не з’яўляецца найпершай неабходнасцю для жыццядзейнасці чалавека, а як забава і адпачынак, а таму за гэта трэба плаціць як паляўнічым, так і рыбаловам. «Калі хтосьці ўзяў у арэнду возера або паляўнічую гаспадарку, за гэта трэба плаціць, і немалыя грошы. А каб арандатар не нёс страт, ён разбярэцца, колькі возьме з тых, хто прыехаў да яго паляваць або рыбачыць», — сказаў Лукашэнка.

**Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў весці жэстачайшы строгі кантроль за развядзеннем жывёл:**

«У нас няма значных запасаў карысных выкапняў. Менавіта таму мы павінны з патроенай энергіяй ахоўваць тое, чым прырода надзяліла нас шчодра». Ён нагадаў, што ў гэтых мэтах былі прыняты дзяржаўныя праграмы развіцця паляўнічай гаспадаркі і рыбагаспадарчай дзейнасці да 2015 года.

**«Як мне дакладваюць, праграма развіцця паляўнічай гаспадаркі ў цэлым выконваецца і нібыта ў нас дадатная дынаміка павелічэння колькасці асноўных відаў дзікіх жывёл»,** — сказаў Лукашэнка.

Ён заўважыў, што ў той жа час, напрыклад, у рыбалоўнай гаспадарцы не ўсё паспяхова: заданні па лоўлі рыбы з прыродных вадаёмаў не выконваюцца, у тым ліку Віцебскім, Брэсцкім, Магілёўскім аблвыканкамамі і арганізацыямі Кіраўніцтва справамі прэзідэнта, шмат скаргаў з месц на безгаспадарчасць, іншыя недахопы на арандаваных вадаёмах. «Наогул павінен сказаць, што ролі мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў у працэсах навядзення парадку і развіцця рыбалоўства да гэтага часу не відаць», — сказаў ён.

**«Але што насцярожвае больш за ўсё, дык гэта браканьерства і іншыя злачынствы ў гэтай сферы»,** — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

«Мяне супакойваюць у справаздачах: маўляў, усё стабілізавалася ў паляўнічых гаспадарках, няма прыросту небяспечных парушэнняў. Удумайцеся: пад тысячу адзінак канфіскаванай зброі, дзясяткі тон незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл. А што робіцца ў рыбалоўстве?! Колькасць парушэнняў штогод змяншаецца, дакладваюць, і у мінулым годзе зарэгістравана ўсяго нічога — 5 тыс. выпадкаў. Памнажайце спакойна на 3, а можа, на 5, і вы будзеце ведаць, колькі было гэтых парушэнняў, а можа, і на 10. Браканьерскіх сетак канфіскавалі больш за 300 км, незаконна здабытай рыбы зарэгістравана 14 т», — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

**Лукашэнка вельмі абураны пэўнай інертнасцю праваахоўнікаў у гэтай сферы.**

«Мяркуйце самі. Першая рэдакцыя правіл была прынята ў 2005 годзе. За гэты час у іх дзесяць разоў уносіліся змяненні. І, нягледзячы на ўсе гэтыя так званыя ўдасканаленні, у некаторых службовых асоб, адказных за названую сферу, хапае смеласці гаварыць аб недахопах дзеючага заканадаўства, якія даюць магчымасць парушальнікам ухіляцца ад адказнасці. Дык вы ж стваралі гэтыя правілы, дзесяць разоў іх змянялі, і ўсё роўна вам чагосьці не хапае», — сказаў ён.

**«Неабходна пакласці канец гэтай цяганіне і неразбярысе!**

І не дай Бог пасля таго, як прэзідэнт падпіша ўказ аб зацвярджэнні новых правіл палявання і рыбалоўства, зноў узнікнуць дзіркі і вы скажаце, што вам не хапае заканадаўства, — крыўдуйце самі на сябе, ад урада да адпаведных нізавых структур», — папярэдзіў Лукашэнка.

«Мы павінны выйсці на прыняцце нармальных рашэнняў. Ніякага згоднніцтва, толькі дзяржаўны падыход», — падкрэсліў Лукашэнка, звяртаючыся да прысутных на нарадзе.

*БелТА*

# Пляжны валейбол падышоў да фіналу

■ **Яўген Самсонаў**

**Вызначыліся фіналісты ў адкрытым чэмпіянаце па пляжным валейболе Глыбоцкага раёна.**



Перамогай Глыбоцкіх камунальнікаў 2:0 (21:3, 21:3) над дарожнікамі і ГЭСам 2:1 над мясакамбінатаўцамі, 29 чэрвеня вызначыліся фіналісты адкрытага чэмпіянату Глыбоцкага раёна ў групе Б. Валейбалісты каманд: ДЭУ-35, Энергія, СПМК-26 і РУПС падзялілі адпаведна з 4 па 7 месца і могуць прысутнічаць на далейшых гульнях толькі ў якасці балельшчыкаў. Адпаведны лёс і ў каманд групы А: ПМК-48, ЖКГ Докшыцы і Гаргаз Докшыцы. Далейшую барацьбу працягнуць – ЦРБ, МКК і Элдвігсервіс з групы А і ГЭС, ЖКГ Глыбокае, Мясакамбінат з групы Б.

Фінал будзе праходзіць 30-31 ліпеня і 1 жніўня штодзень з 17. 30 на возеры Бяглец. Сардэчна запрашаем на захапляючае відовішча, бо гуляюць сапраўдныя майстры сваёй справы.

■ **Зміцер Лупач**

# З-за недахопу інфармацыі нараджаюцца розныя чуткі, што чумы няма

**УвёсцыДзеркаўшчына Глыбоцкага раёна 28 ліпеня прайшоў сход мясцовых жыхароў, на якім разглядалася пытанне аб забароне мясцовым жыхарам трымаць свіней у пяцікіламетровай зоне вакол свінакомплексу “Маліноўшчына”. На тэрыторыі Карабоўскага сельсавета ў гэту зону ўваходзяць вёскі Лаўцы, Дзеркаўшчына, Воўкаўшчына, Сакавічы, Альховікі, Карабы I, Карабы II, Тумашы, Блышкі, Мядзвёдкі, Зевалічы, Зарубіна, Жураўнёва, Старыя Шарабаі, Сазонаўшчына.**

На сходзе прысутнічалі кіраўнік раёна Алег Морхат, прадстаўнікі ветслужбы, аховы прыроды, міліцыі, іншых служб раёна, а таксама кіраўніцтва ААТ “Канстанцінаў Двор” і Карабоўскага сельскага савета. Аўтара гэтага матэрыяла з-за невядомых прычын на сход не дапусцілі. Таму пішу гэты матэрыял, карыстаючыся іншымі крыніцамі.

Спачатку колькі словаў пра саму хваробу. Афрыканская чума свіней — небяспечнае віруснае захворванне хатніх і дзікіх свіней, якое характарызуецца хуткім распаўсюджаннем і высокай ступенню смяротнасці. Лекавыя сродкі для прафілактыкі і лячэння гэтай хваробы адсутнічаюць. Для здароўя людзей хвароба небяспекі не ўяўляе.

Больш дакладна было б сказаць, што пакуль не ўяўляе. Як заявіў Галоўны санітарны ўрач Расіі Генадзь Анішчанка, у будучым вірус афрыканскай чумы свіней можа пагражаць чалавеку.

«Калі ўзгадаць, што свіння па сваёй фізіялогіі вельмі блізкая да чалавека, і яны хварэюць гэтак жа, як і мы, то ёсць падставы думаць, што ў чарговым туры мутацыі гэтага віруса ён можа стаць небяспечным для чалавека», – паведаміў Анішчанка журналістам на сустрэчы ў Пецярбургу.

Ён таксама лічыць намер Літвы адгарадзіцца ад Беларусі плотам бескарысным, бо вірус можна завезці праз нелегальны правоз мяса, а таксама ён можа трапіць са збожжам.

Калі для здароўя людзей вірус пакуль не небяспечны, то для эканомікі ён наносіць вельмі вялікія негатыўныя наступствы. Пакуль супраць гэтага віруса няма лекавых сродкаў, мера барацьбы застаецца толькі адна – у выпадку з'яўлення ачага інфекцыі практыкуецца поўнае знішчэнне хворага пагалоўя свіней бяскроўным метадам, а таксама ліквідацыя ўсіх свіней у ачагу хваробы і радыусе 20 км ад яго. Хворыя свінні, а таксама тыя асобіны, што кантактавалі з імі падлягаюць забою з наступным спальваннем трупаў.

У выпадку ўзнікнення афрыканскай чумы на гаспадарку накладваецца каранцін. Усіх свіней у дадзеным ачагу інфекцыі знішчаюць бяскроўным спосабам. Трупы свіней, гной, рэшткі корму спальваюць. Попел закопваюць у ямы, змешваючы яго з вапнай. Памяшканні і тэрыторыі ферм дэзінфікуюць гарачым 3% растворам едкага натру, 2% растворам фармальдэгіду. На адлегласці 10 км вакол усё пагалоўе забіваюць, а мяса перапрацоўваюць на кансервы. Каранцін здымаюць праз 6 месяцаў з моманту апошняга выпадку падзяжа, а разводзіць свіней у гэтым месцы дазваляецца не раней, чым праз год пасля зняцця карантыну.



На шчасце, у Глыбоцкім раёне гэтай страшнай хваробы пакуль не выяўлена. Тыя меры, якія прымаюцца ўладамі, накіраваны на тое, каб агарадзіць пагалоўе свінатаварнага комплексу “Маліноўшчына” ад гэтай інфекцыі. Аналагічныя меры прымаюцца і ў суседнім Шаркаўшчынскім раёне вакол свінакомплексу “Гарадзец”. Там штодзённа вядзецца адстрэл варон і галубоў, якія могуць быць пераносчыкамі хваробы, знішчаюцца грызуны. Для большай бачнасці абкошваюцца вакол жывёлагадоўчых памяшканняў канавы і прыдарожныя палосы. Арганізавана дзяжурства патрэбных службаў. Словам, захоўваюцца ўсе ветэрынарна-санітарныя патрабаванні.

Вырашана на ўсёй 5-кіламетровай зоне паблізу свінагадоўчага комплексу стварыць свабодную зону ад АЧС. Гэта значыць, каб там не было свіней ні ў асабістым сектары, ні дзікай жывёлы. Дастаткова сказаць, што людзі з разуменнем аднесліся да гэтай праблемы. З наяўных 467 свіней у асабістых гаспадарках на 5-кіламетравай зоне ад комплексу забіты на ўласныя патрэбы 210 жывёлін, паведамляе шаркоўшчынская раённая газета “Кліч Радзімы”.

Такія ж меры прымаюцца і ў Глыбоцкім раёне вакол свінакомплексу “Маліноўшчына”. Ёсць толькі пытанні наконт тлумачальнай працы сярод насельніцтва. Тут менавіта трэба больш увагі ўдзяліць гэтай самай тлумачальнай працы, а не сілавым метадам і пагрозам. Бо людзі задаюць пытанне, а чаму няма паперы з подпісам адказнай асобы і пячаткай, у якой бы было сказана, што свінней трэба парэзаць. А такой паперы няма, і, на маю думку, быць не можа, бо, калі забараняць трымаць свіней насельніцтву, трэба забараніць і гаспадарцы. Таму, яшчэ раз хачу падкрэсліць, замест таго, каб пагражаць людзям living рознымі карнымі мерамі, іх трэба больш інфармаваць.

А з-за недахопу інфармацыі нараджаюцца розныя чуткі, што чумы няма, што ўлады яе прыдумалі, каб знішчыць канкурэнцыю з боку прыватнікаў. Гэтыя чуткі не вытрымліваюць крытыкі, тым не менш, з-за недахопу інфармацыі яны маюць месца.

Адразу пасля сходу ў Дзеркаўшчыне і навакольных вёсках пачаліся пагалоўшчыны. Народ у нас збольшага паслухмяны, людзі лічаць, што пярэчыць уладзе бессэнсоўна.

Зачэпіць наш рэгіён небяспечная хвароба ці не, пакажа час, але тое, што гэты вірус ужо нанёс значны эканамічны ўрон прыватнікам, відавочна.

Калі матэрыял быў падрыхтаваны да друку, стала вядома, што 12 ліпеня гэтага года Міністэрства сельскай гаспадаркі прыняло пастанову №30, якая ўступіла ў сілу 27 ліпеня 2013 года. Згодна яе, забараняецца трымаць свіней у прыватных і фермерскіх гаспадарках вакол свінаводчых комплексаў у радыусе 5 кіламетраў.



Объявление

28 июля 2013г в 7[00](утро)

в Дерковщинском сельском центре культуры будет проводиться собрание граждан для встречи с официальными представителями администрации Глубокского района и ветеринарных служб по вопросу запрета содержания свиней в 5 километровой зоне вокруг СТК «Малиновщина».

В пятикилометровую зону входят: д. Ловцы, Волковщина, Сазоновщина, Саковичи, Дерковщина, Ольховики, аг.Коробы-2, Коробы-1, Тумаши, Зарубино, Ст.Шарабаи, Журавнево, Медведки, Зеваличи, Блышки.

Убедительная просьба принять участие в данном собрании!




■ **Валерый Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Ні пуху, ні пяра!

**Паляванне – адно з любімых заняткаў мужчын. Бо паляванне – гэта не толькі здабыча жывёл, але і адпачынак, зносіны з сябрамі, новыя ўражанні і выкід адрэналіну.**

З другой суботы жніўня па другую нядзелю снежня ў светлы час сутак (за гадзіну да ўзыходу сонца і гадзіну пасля заходу сонца) адкрываецца паляванне на вадаплаўную дзічыну (акрамя гусей) і балотную: вальдшнепа, вяхіра, галуба шызага і перапяла.

Але ўсё ж трэба не забываць пра тое, што ў Правілах вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 580 ад 8.12.2005 года, выразна вызначаны спосабы і прылады палявання. Да дазволеных спосабаў адносяцца: стрэльбавы, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі, з падыходу, з засады, з падманьваннем, з пад'езда з маламерных судоў. Да дазволеных прылад палявання адносяцца: гладкаствольная паляўнічая зброя з выкарыстаннем патронаў, падрыхтаваных дробам, паляўнічыя сабакі: усе групы, акрамя ганчакоў і барзых, маламерныя судны без рухавіка ці з непрацуючым рухавіком.

Паляванне дазваляецца чатыры дні ў тыдзень, субота, нядзеля і два дні, якія вызначаны карыстальнікам паляўнічых угоддзяў.

Для законнага правядзення палявання паляўнічым пры сабе трэба мець дзяржаўнае пасведчанне на права палявання, дазвол на захоўванне і нашэнне зброі, паляўнічую пуцёўку, а пры выкарыстанні паляўнічых сабак – рэгістрацыйную картку на сабаку.

Супрацоўнікі інспекцыі звяртаюць увагу паляўнічых, што ў разгары сезон нарыхтоўкі ягад і грыбоў, а таксама ўборка ураджаю, на вадаёмах шмат адпачывальнікаў, ва ўгоддзях знаходзіцца вялікая колькасць людзей, таму патрабуецца строгае і няўхільнае выкананне правіл бяспекі на паляванні. Парушэнне тэхнікі бяспекі можа прывесці да трагічных наступстваў. Часта паляўнічыя пераязджаюць з аднаго месца палявання ў іншае, не зачахляючы зброі ці нават не разраджаючы яе, пры падыходзе аднаго паляўнічага да іншага таксама не разраджаюць зброю, пры праверцы дакументаў на права палявання службовымі асобамі органаў дзяржаўнага паляўнічага кантролю, паляўнічы абавязаны неадкладна разрадзіць зброю, аднак такое бывае не заўсёды. Глыбоцкая міжраённая інспекцыя заклікае паляўнічых выконваць заканадаўства, каб прыемныя адносіны з прыродай не ператвараліся ў непрыемныя адносіны з інспектарамі. Калі вы неабыякавыя да браканьерства, то пра ўсе парушэнні вы можаце паведаміць на тэлефон гарачай лініі: 8(02156) 2-86-70, мабільныя тэлефоны: (029)897-23-02, (029)890-55-28, (029)249-45-49, (033)645-66-78.

**Удалага ўсім палявання!**

